www.nv-online.info

№ 59 (4004)

31 ліпеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**SOS!**

*Валютная выручка Беларусі знізілася амаль на 5 мільярдаў долараў. Такія вынікі працы айчыннай эканомікі за першыя шэсць месяцаў 2015 года.*
*Усяго ў першай палове 2015 года валютная выручка Беларусі склала 16,7 мільярда долараў.*

ПАЗІЦЫЯ

*Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:*

## «У Беларусі няма свабодных і справядлівых выбараў, але ёсць палітычныя вязні, ёсць выкрадзеныя: Віктар Ганчар, Юрый Захаранка, Анатоль Красоўскі, Дзмітрый Завадскі – мы памятаем пра іх»

Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і члены ягонай каманды правялі акцыю салідарнасці з палітычнымі зняволенымі і сваякамі зніклых палітыкаў.

Падзея адбылася ў рамках збору подпісаў за вылучэнне кандыдата на ўдзел у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі на адным з пікетаў каля ГУМа ў цэнтры Мінска.

Лябедзька разам з аднапартыйцамі прыйшоў на пікет у майках з надпісамі: «Свабоду палітвязням Беларусі», «Свабоду Мікалаю Статкевічу», а таксама з партрэтамі Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Дзмітрыя Завадскага... Да мінчан, якія неўзабаве сабраліся каля пікета, Анатоль Лябедзька звярнуўся праз мегафон з прамовай:

«У Беларусі няма свабодных і справядлівых выбараў, але ёсць палітычныя вязні, ёсць выкрадзеныя: Віктар Ганчар, Юрый Захаранка, Анатоль Красоўскі, Дзмітрый Завадскі – мы памятаем пра іх. Ці чулі вы пра зніклых і палітвязняў праз дзяржаўнае тэлебачанне? І сказаць пра іх мы маем магчымасць толькі раз на пяць гадоў...”

Усіх прысутных здымалі на відэа супрацоўнікі сілавых структур, якія былі пераапрануты ў цывільнае. Шмат пераапранутых сілавікоў, у тым ліку з кіраўніцтва мінскай міліцыі, назіралі за тым, што адбываецца, і нават спрабавалі гэта спыніць.

Лідар АГП прамаўляў, стоячы побач з пікетам за Аляксандра Лукашэнку. Палітыку не перашкаджалі выказвацца, але па заканчэнні да Анатоля Лябедзькі і Віктара Карняенкі, якія таксама ўдзельнічаў у акцыі, падышлі двое чалавек, адзін з іх назваўся намеснікам старшыні тэрытарыяльнай выбарчай камісіі Цэнтральнага раёна Мінска Барысам Кручковым, і зрабілі заўвагу за выкарыстанне партрэтаў зніклых і палітвязняў.

*«Мы далі яму Выбарчы кодэкс і папрасілі назваць артыкул, які забараняе стаяць з партрэтамі палітвязняў, а дазваляе стаяць толькі са сваім партрэтам. Натуральна, што такой спасылкі няма, на гэтым яны і сышлі”*, – расказаў потым Анатоль Лябедзька.




АБІТУРЫЕНТ-2015

## Што ж гэта будуць за спецыялісты?

Нягледзячы на тое, што ў некаторых беларускіх ВНУ быў абвешчаны дадатковы набор, бюджэтныя месцы так і засталіся незапоўненыя.

Нагадаем, што пасля таго, як вышэйшыя навучальныя ўстановы скончылі прыём дакументаў ад тых, хто хоча стаць студэнтам, высветлілася, што ў 11 універсітэтах застаюцца свабоднымі больш за 350 бюджэтных месцаў. На іх і быў абвешчаны дадатковы набор. Але гэта дапамагло не ўсім.

Адным з самых “пацярпелых” стаў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт. У перыяд асноўнага набору на бюджэт тут недалічыліся 95 будучых інжынераў. За тры дні дадатковага набору жаданне атрымаць гэтую прафесію выказаў 21 абітурыент. Такім чынам, тут засталося 74 незапоўненых бюджэтных месцы і на іх цяпер могуць прэтэндаваць жыхары Данецкай і Луганскай абласцей, а таксама грамадзяне Туркменістана.

А вось Гомельскі дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт імя П.Сухога дзякуючы дадатковаму набору план выканаў на 100 працэнтаў. Тое ж можна сказаць і пра сельгасакадэмію ў Горках. Апошняй установе, праўда, давялося знізіць патрабаванні да абітурыентаў: тут у шэрагі студэнтаў бралі нават тых, хто набраў на ЦТ па біялогіі, хіміі і мовам хоць бы 5 балаў са 100 магчымых.

ШТО ТАМ, НА ПАЛЕТКАХ?

## Недалічымся...

З-за неспрыяльных кліматычных умоў недабор ураджаю збожжавых на Гомельшчыне можа скласці да 50%. Ці не застанемся мы ў гэтым годзе без хлеба?

Сёлетняе лета ў чарговы раз нагадала, што Беларусь знаходзіцца ў зоне рызыкоўнага земляробства. Небывалая засуха прывяла да значных страт збожжавых на поўдні краіны. У некаторых гаспадарках Гомельшчыны збожжавыя загінулі практычна цалкам. Гэта прымусіла падкарэкціраваць планы на выніковы ўраджай збажыны.

Вядучы навуковы супрацоўнік Навукова-практычнага цэнтра НАН Беларусі па земляробстве Канстанцін Шашко расказвае:

– У Гомельскай вобласці засуха працягвалася амаль шэсць дэкад, значыць, рэгіён практычна заставаўся без дажджоў два месяцы. У некаторых гаспадарках рэгіёна збожжавыя прыйшлося прыбіраць на корм, каб хоць такім чынам кампенсаваць страты. У выніку недабор ураджаю ў гэтай галіне можа скласці да 50%. У Брэсцкай, Мінскай і Магілёўскай абласцях страты могуць скласці ад 25 да 30%. Менш за ўсіх пацярпелі Гродзенская і Віцебская вобласці, але і тут недабор можа скласці да 10% ураджаю.

### Афіцыйна

Паводле аператыўных дадзеных Міністэрства гаспадаркі і харчавання Беларусі па стане на сярэдзіну гэтага тыдня было намалочана 1,4 мільёна тон збожжа (3,6 мільёна тон на гэты ж перыяд у мінулым годзе). Пры гэтым ураджайнасць складае 32,1 ц/га (супраць 39,4 ц/га супраць мінулагодняй).

### «Хопіць нагнятаць абстаноўку»

Не так даўно ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі абвяргалі інфармацыю пра страты ўраджаю з-за засухі.

– Хопіць нагнятаць абстаноўку. Гэтага няма. Па стане пасеваў на сёння чакаецца падзенне ўраджайнасці, можа, на 2–2,5 цэнтнеры з гектара ў параўнанні з мінулым годам. Сёння прыбіраем азімы ячмень – падзенне 1,8 цэнтнера. Навошта нагнятаць тое, чаго няма ў краіне? – заявіў журналістам першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Леанід Марыніч.

Аднак зараз страты прызнае і афіцыйная статыстыка.

### Якім будзе ўраджай?

На пачатку красавіка намеснік генеральнага дырэктара Навукова-практычнага цэнтра НАН Беларусі па земляробстве Эрома Урбан заяўляў, што ў гэтым годзе ў Беларусі плануецца сабраць 9,2 мільёна тон збожжавых. Па словах Канстанціна Шашко, зыходзячы з сённяшняй сітуацыі, варта разлічваць на 6–6,5 мільёна тон.

– Гэтага цалкам дастаткова для забеспячэння беларусаў хлебам, – падкрэслівае суразмоўца.

**Сямён ПЕЧАНКО,**
“Салідарнасць”.

АКЦЫЯ



## Нацыя «чаўночнікаў»

Мастак Аляксандр Міхаловіч правёў перформанс, збудаваўшы інсталяцыю з палавіны аўтамабіля, набітага традыцыйнымі пакупкамі ў польскіх крамах: парашкі, памперсы, адзенне. Экспазіцыю на колах Аляксандр спачатку прыпаркаваў каля гіпермаркета ў Бяла-Падлясцы, потым прывёз на мяжу, а затым прыпаркаваўся ў Варшаве каля будынка польскага МЗС.

– Беларусы – санітары Еўропы, – кажа ён, – якія вывозяць непатрэбныя ЕС тавары і пры гэтым сутыкаюцца з праблемамі ў атрыманні віз. Мы ездзім у ЕС, але павінны разумець, што нам гэта трэба не менш, чым самім палякам. Каб пакінуць ім грошы, мы вымушаны стаяць у чэргах, атрымліваць нейкія штрафы і так далей. Але я хацеў падняць пытанне не толькі крытычных адносін да ўлад ЕС, але і да саміх сябе. У нас спажыванне пачынае станавіцца мэтай. Хаця ў Еўропе можна ўзяць шмат чаго – падарожжы, адукацыю, уражанні, гісторыю, мастацтва, а мы едзем туды за таварам, грэбуючы астатнім.

СКАЗАНА...

## Знайсці!



*«Я проста не веру, што ў нас няма вялікіх аб'ёмаў нафты і што ў нашых нетрах адсутнічае прыродны газ,* – заявіў учора **Аляксандр Лукашэнка,** прымаючы з дакладам міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Андрэя Каўхуту**. *– На падобных тэрыторыях у Расіі і іншых краінах здабываецца нямала нафты і прыроднага газу, а таксама каштоўных металаў – тое, што стварае аснову дабрабыту і ўстойлівасці любой эканомікі любой дзяржавы».*

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## З-за марожанага мог адбыцца міжнародны скандал

У Мінску каля ГУМа затрымалі вядомага беларускага музыканта і пісьменніка **Леаніда Зубарава**. Прычынай затрымання стала тое, што ён «падкормліваў» пікетоўцаў, якія збіраюць подпісы за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі.

Па словах пісьменніка, пасля таго, як ён прынёс зборшчыкам марожанае, да яго падышлі супрацоўнікі АМАПу. Яны абвінавацілі пісьменніка ў тым, што ён «лаяўся матам» і прапанавалі прайсці разам з імі. Калі Зубараў адмовіўся, яму заламалі рукі і адвезлі ў пастарунак.

Дакументаў у Леаніда Зубарава з сабой не было, але ён прапанаваў прачытаць пра яго ў Вікіпедыі. Пасля таго, як афіцэр убачыў фота пісьменніка і даведаўся аб наяўнасці грамадзянства ЗША, Леаніда Іосіфавіча адпусцілі.

Леанід Зубараў – беларускі пісьменнік, аўтар твораў для дзяцей і юнацтва на рускай, англійскай і беларускай мовах. Ён кіраваў аркестрам народнай музыкі і ВІА «Блукаючыя зоркі». З 1990-га жыве ў ЗША і Беларусі. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, віцэ-прэзідэнт «Беларускага зямляцтва».

ТЫМ ЧАСАМ

## Бунтуе Сельгаспасёлак




Знос Сельгаспасёлка ў Мінску ўжо выклікае лакальныя бунты. Днямі ля школы №78, дзе адбывалася сустрэча прадстаўнікоў улады з жыхарамі мікрараёна, сабраўся сапраўдны натоўп. Актавая зала проста не магла ўмясціць усіх жадаючых выказаць свой боль і абурэнне тым, як і на якіх умовах у Беларусі адбываецца адсяленне ўладальнікаў прыватных сядзіб.

З-ЗА КРАТАЎ

## Нават на могілках лепшыя ўмовы

Ёсць такая прыказка: зямлі два на паўтара метра ўсім хопіць... Кожнаму з нас пасля смерці будзе выдзелена тэрыторыя ў тры квадратныя метры.

А як, скажыце, жывому выжыць на двух квадратных метрах?..

Амаль месяц, як палітвязень Мікалай Дзядок знаходзіцца ў памяшканні камернага тыпу папраўчай калоніі №9 горада Горкі. Спачатку Мікалай Дзядок знаходзіўся адзін у ПКТ (памяшканне камернага тыпу), памерам 5 квадратных метраў. Але праз некалькі дзён да яго змясцілі яшчэ аднаго асуджанага. Такім чынам, цяпер на кожнага з іх прыпадае каля 2,5 квадратных метра.

Маці Мікалая Дзядка звярнулася ў Дэпартамент выканання пакаранняў МУС, каб даведацца, якія памеры камеры прадугледжаны нормамі ўмоў утрымання асуджаных у ПКТ і ці не парушаюцца яны ў дачыненні да палітвязня?

“Знаходзячыся на прыёме ў ДВП, даведалася пра колькасць метраў, якія патрэбны па нормах для ўтрымання чалавека ў памяшканні камернага тыпу, і жахнулася. Два квадратныя метры на чалавека! Што ж атрымліваецца, у камеры ў Колі нават лішнія метры ёсць? Хто вызначае, на якой плошчы будзе сядзець той ці іншы зняволены? Нельга ж так здзекавацца! Відавочна, спачатку на Мікалая ціснулі псіхалагічна, а зараз проста знішчаюць фізічна”, – занепакоена маці Мікалая Дзядка.

СІТУАЦЫЯ

## «Прыгаварылі»

Адміністрацыі раёнаў Мінска пачалі публікаваць адрасы прыватных дамоў, якія плануецца знесці ў бліжэйшыя 10–15 гадоў.

Амаль татальная зачыстка ад сядзібнай забудовы чакае Ленінскі раён Мінска, маштабныя планы па зносе да 2030 года намечаны і ў Маскоўскім раёне – тут вынесены «прысуд» у дачыненні да 968 домаўладанняў.

На месцы знесеных у прыватным сектары дамоў будуць будавацца шматкватэрныя жылыя дамы і шматфункцыянальныя комплексы. Ужо распрацаваны горадабудаўнічыя пашпарты і вызначаны канкрэтныя ўчасткі, якія выставяць на аўкцыёны.

Да прыкладу, 14 сядзіб будзе знесена на вуліцы Пятроўшчына ў раёне перасячэння праспекта Дзяржынскага і вуліцы Сямашка – там павінны з'явіцца адміністрацыйна-гандлёвы комплекс і бізнес-цэнтр. Шматкватэрнымі дамамі забудуюць раён Грушаўкі, а таксама прылеглыя да праспекта Дзяржынскага кварталы прыватнага сектара паміж станцыямі метро «Грушаўка» і «Міхалова».

Архітэктары вырашылі пакінуць толькі невялікія ўчасткі прыватнага сектара: амаль цалкам захаваюць каларытныя дамы ў Паўночным завулку, якія лічацца гісторыка-культурнай каштоўнасцю як помнік гарадской драўлянай забудовы пачатку XX стагоддзя. Там знясуць толькі тры дамы ў сувязі з будаўніцтвам станцыі метро «Плошча Багушэвіча». Захаваецца таксама асноўная частка сядзіб у межах завулка С.Кавалеўскай – вуліцы Малой – чыгункі – праспекта Жукава. Пазбегне зносу і досыць прэстыжны катэджны масіў у Малінаўцы, які знаходзіцца ў межах вуліц Громава і Курганнай.

